# РОЗГАЛАС

## ЗАДАВОЛЕНЫ ЎСЕ. АСАБЛІВА — НАМЕСНІКІ ДЫРЭКТАРАЎ

**Многія буйныя турніры і спаборніцтвы з-за эканамічных цяжкасцей загадалі доўга жыць. А вось «Палескі марафон», які праводзіць Пінская раённая асацыяцыя аматараў фізкультуры і спорту, жыве і набірае сілу.**

Сёлетні сабраў 200 удзельнікаў з Беларусі, Украіны, Расіі, Літвы. Другі год запар пераможцам на марафонскай дыстанцыі стаў мінчанін Барыс Батуеў. Узнагарода яму — стэрэамагнітафон і ў прыдачу 1.500 рублёў. Прызоў удастоены самы малодшы ўдзельнік — 5-гадовы Ігар Турчыновіч і самы старэйшы — 76-гадовы Рыгор Якаўлевіч Чарноў з Брэста.

Упершыню сярод бегуноў разыгрывалася і латарэя. Тут лепшыя ўзнагароды даталіся намесніку старшыні калгаса з Маларыцкага раёна Івану Замятаеву і намесніку дырэктара ВА «Гомельдрэў» Мікалаю Каменеву. Усяго ж з падарункамі і прызамі пакінулі Пінск больш за 50 чалавек. Пра гэта паклапаціліся спонсары — фірма «Калібры», мясцовы камерцыйны банк, калгас імя Леніна.

## УДАВІДЧЫК І ШАЛЯГОВІЧ У СУДЗЕ

**У другі раз адправіла на пенсію вясною гэтага года адміністрацыя грамадска-культурнага аб'яднання «Полісьсе» Каленіка Лук'янавіча Удавідчыка, якога летам 1990 года М. Шаляговіч перацягнуў з ціхай вартаўніцкай пасады ў вірлівую палітычную дзейнасць. Пэўны час старшы эксперт ГКА «Полісьсе» К. Л. Удавідчык лічыўся адным з найбольш аўтарытэтных і актыўных супрацоўнікаў, але ў рэшце рэшт ён радыкальна разышоўся ў поглядах са сваім начальствам і быў звольнены «па старасці», бо яму многа больш за 60. Як заявілі прадстаўнікі адміністрацыі, ён перастаў задавальняць іх як супрацоўнік...**

Не адзін К. Удавідчык адышоў апошнім часам ад «каманды» Шаляговіча — былых яго паплечнікаў, што разышліся са сваім лідэрам, ужо не менш дзесятка. Аднак толькі Каленік Лук'янавіч вырашыў спагнаць з адміністрацыі «Полісься» кампенсацыю за «маральны ўрон». Ён падаў іск з патрабаваннем аднавіць на пасадзе і аплаціць месяцы вымушанага прагулу. Гэты іск і разглядаўся 10—11 лістапада народным судом Цэнтральнага раёна горада Мінска. Суд, аднак, адхіліў іск К. Удавідчыка, тым самым прызнаўшы, што адміністрацыя «Полісься», скараціўшы пенсіянера, ніякіх юрыдычных норм не парушыла.

**В. КАЛІНОЎСКІ.**

## ЛІСТАПАД — ПАРА МУЗЫЧНЫХ УСПАМІНАЎ

**Нас запрасілі на прадстаўленне прыдворнай трупы. Інструментальныя нумары капэлы (яна ж — ансамбль «Класік-авангард») чаргаваліся з нумарамі балетнага дывертысменту, які выконвалі грацыёзныя дамы і пачцівыя кавалеры — вучні Беларускага харэаграфічнага вучылішча. Напудраныя белыя парыкі, бальныя сукенкі і расшытыя камзолы — галантнае XVIII стагоддзе...**

Апошні канцэрт II фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы» адбыўся 10 лістапада на сцэне Белдзяржфілармоніі. Сёлета фестываль, які сваёй мэтай лічыць высакародную справу адраджэння нашай музычнай спадчыны, праводзіцца ўжо другі раз. Ён набыў статус міжнароднага.

На думку спецыялістаў, II фестываль «Адраджэнне беларускай капэлы» вызначаўся і большай разнастайнасцю жанраў, і больш высокім майстэрствам выканання. Сярод удзельнікаў фестывалю былі вядомыя ў рэспубліцы калектывы — Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр, Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла, камерны хор пад кіраўніцтвам І. Мацюхова, гітарыст В. Жывалеўскі, спявак В. Скарабагатаў, а таксама госці — аркестр з Санкт-Пецярбурга «Моцартэум» і польскі ансамбль старадаўняй музыкі «Il Concerto Polacco».

**Па «Розгаласу» дзяжурылі: У. Здановіч, І. Карней, А. Сланеўскі, С. Сулкоўскі, І. Шчучэнка, А. Коктыш.**

# «САМАЕ ГАЛОЎНАЕ СЁННЯ — АДНОСІНЫ З РАСІЯЙ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

рэспубліцы шырока выкарыстоўваецца ў прамысловасці. Магчыма, з часам Беларусь знойдзе іншыя крыніцы сыравіны ў Казахстане, Узбекістане. Але пакуль што, на думку В. Кебіча, з Расіяй сварыцца, мякка кажучы, неразумна. З ёю мы пакуль што дамаўляемся.

А там, між іншым, даволі востра ўспрымаюць ваяўнічыя заявы ў свой бок асобных нашых дэпутатаў, іх абвінавачванні ў імперскім дыктаце. З гэтай нагоды В. Кебіч прыгадаў пачатак апошняй сустрэчы з Б. Ельцыным. Той выказаў абурэнне агрэсіўнымі нападкамі беларускіх парламентарыяў на Расію, даволі рэзка заявіў, што нашу рэспубліку ніхто не трымае пры сабе — жывіце без нас, як хочаце. Пэўна, расійскі прэзідэнт атрымаў скажоную інфармацыю аб настроях у Вярхоўным Савеце Беларусі. Так ці іначай, В. Кебічу нялёгка было ўвесці размову ў нармальнае рэчышча.

Старшыня Саўміна скептычна выказаўся наконт заклікаў пераарыентавацца на Еўропу і заваяваць яе рынкі. Яны, гаварыў Кебіч, ужо даўно падзелены міжнароднымі карпарацыямі, і прабіцца нашым вытворцам вельмі складана. Хаця і магчыма. Аднак, калі падобнае здараецца, нам не хапае вопыту больш выгадна прадаць сваю прадукцыю. У імкненні хутчэй зарабіць валюту мы нясём значныя страты. В. Кебіч нагадаў гісторыю пра калійныя ўгнаенні. Калі іх дазволілі прадаваць на Захад па бартэру, то мы яўна перастараліся ў аб'ёмах па пастаўках і пачалі, як сказаў В. Кебіч, канкурыраваць самі з сабой. Заходнія бізнесмены гэта адразу зразумелі і сёлета збілі цану на тону калійных угнаенняў з 90 да 60 долараў.

Заваёўваць еўрапейскія і іншыя рынкі трэба, але, на думку Кебіча, не варта сёння забываць пра суседзяў, асабліва калі яны лаяльна ставяцца да тваіх праблем. Ён зноў вярнуўся да Расіі. Днямі Б. Ельцын падпісаў дазвол на продаж Беларусі 16 мільёнаў тон нафты па цане, па якой яна прадаецца на ўнутраным рынку Расіі. Потым нафта з Цюмені будзе нам пастаўляцца па камерцыйнай цане і на давальнай аснове. Інакш кажучы, мы яе будзем перапрацоўваць на сваіх заводах, частку прадуктаў пакідаць сабе, частку аддаваць Расіі. Як бы там ні было, але ў наступным годзе мы не застанёмся без паліва, а ў гэту зіму можна не баяцца голаду і холаду,— запэўніў прысутных В. Кебіч.

Размова з журналістамі працягвалася паўтары гадзіны. Шмат свежай інфармацыі пачулі журналісты, даведаліся пра пункт погляду прэм'ера на тыя ці іншыя падзеі. Карэспандэнта «Звязды» цікавілі праблемы ўзаемаадносін урада і парламента, што трэба зрабіць, каб узаемадзеянні выканаўчай і заканадаўчай улад былі на карысць жыхароў рэспублікі. Наконт Вярхоўнага Савета В. Кебіч зазначыў: у ім што ні галава, то розум. Можа таму перыядычныя справаздачы прэм'ера перад дэпутатамі па вялікаму рахунку нічога не даюць, эфект іх, калі не лічыць вострыя папулісцкія прамовы дэпутатаў, нізкі. І ўсе яны патрабуюць: дай, дай, дай... Даўно пара зразумець, што ўрад не можа даць больш, чым ён бярэ ў іншых. В. Кебічу вельмі хацелася б, каб разам з крытыкай, патрабаваннямі з трыбуны парламента гучалі канкрэтныя прапановы па вырашэнню ўзнімаемых дэпутатамі праблем. Тады і ўраду лягчэй было б працаваць па выкананню рашэнняў Вярхоўнага Савета.

Сярод навін, пачутых у час сустрэчы, хочацца паведаміць наступныя.

Асабіста В. Кебіч выступае за ўвядзенне свабодных цэн на мяса, а датацыі каб атрымлівалі не вытворцы, а пакупнікі. Бо дзяржаўныя датацыі нярэдка ідуць на павышэнне зарплаты, што ў канчатковым выніку кладзецца на цану сельгаспрадукцыі. Напрыклад, за кошт такіх датацый дырэктар Слуцкага цукровага завода атрымлівае неблагую зарплату — 46 тысяч рублёў у месяц.

У бліжэйшы час чакаюцца грунтоўная рэарганізацыя, вялікія перастаноўкі ў апаратах Саўміна, міністэрстваў і ведамстваў. Мэта іх — разгрузіць Саўмін ад дубліравання галіновых міністэрстваў, даць апошнім больш самастойнасці і адначасова павысіць іх адказнасць.

Паспяховым быў візіт урадавай дэлегацыі ў Аўстрыю, дзе ўдалося атрымаць доўгатэрміновы крэдыт ў 500 мільёнаў долараў пад нізкі працэнт з выплатай праз восем гадоў. Такога выгаднага пагаднення з капіталістычнымі краінамі ў Беларусі яшчэ не было.

У апошні час распаўсюдзіліся чуткі, што, маўляў, з 1 студзеня будзе замарожана зарплата. В. Кебіч сказаў, што такога не здарыцца. Замарозіць зарплату можна пры стабільных цэнах, а яны сёння, на жаль, пазбаўлены гэтай якасці.

Будуць ліквідаваны ўсе камерцыйныя структуры пры Саветах розных рангаў, міністэрствах, ведамствах, якія займаюцца перапродажам тавараў.

Вынікі дзевяці месяцаў увогуле несуцяшальныя. Балюча па эканоміцы рэспублікі ўдарылі разрыў эканамічных сувязей, амбіцыі палітыкаў краін СНД. Хоць ёсць і абнадзейваючы момант, напрыклад, падзенне вытворчасці за кастрычнік склала ўсяго 4,5 працэнта. Значыць, крыху ўжо навучыліся працаваць у экстрэмальных умовах.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# Прыватызацыя прыпынена

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

рора Рэспублікі Беларусь аб барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй». Нагадаем, што факты беспардоннага раскрадання нацыянальнага багацця і дзяржмаёмасці былі напярэдадні прыведзены не толькі ў справаздачы пракуратуры, але і ў выступленні на закрытым пасяджэнні старшыні КДБ Эдуарда Шыркоўскага.

Аналізуючы становішча спраў у рэспубліцы, дэпутаты адзначалі, што асабліва буйныя раскраданні адбываюцца ў выніку так званай «прыхватызацыі». Таму парламент амаль аднадушна выказаўся за спыненне прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці да прыняцця Закона «Аб раздзяржаўленні ўласнасці ў Рэспубліцы Беларусь». Гэта рашэнне не распаўсюджваецца на праходзячую ў Беларусі прыватызацыю жыллёвага фонду.

Улічваючы выказаныя ў ходзе дыскусіі прапановы, Станіслаў Шушкевіч адзначыў, што неабходна падрыхтаваць спецыяльную пастанову аб забароне дзяржаўным служачым і іх бліжэйшым сваякам удзельнічаць у рабоце камерцыйных структур.

**Ларыса ЛАЗАР, Аляксандр ЛІМАНОЎСКІ, Валянціна МЕНШЫКАВА. (БЕЛІНФАРМ).**

# «Мы не хварэем на шпіёнаманію, але...»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар).

другое, — я не маю даных, што нейкія заходнія краіны альбо палітычныя дзеячы спрабавалі прыўнесці нестабільнасць у наша грамадства. Я расцэньваю гэтае паведамленне як правакацыю.

— Ці дзейнічае ў нашай рэспубліцы мафія?

— Мафія на Беларусі — перабольшанне. Мафія толькі тады можа называцца так, калі яна поўнасцю кіруе палітычным жыццём, робіць перастаноўкі ва ўрадзе і г. д. У нас такога няма. Аднак факт, што шэраг кіраўнікоў мясцовага, сярэдняга і вышэйшага маштабу загразлі ў несамавітых справах. Але нельга сказаць, што яны аб'ядналіся...

...Я прыводзіў такія прыклады, што проста дзіву даешся. Затрымалі супрацоўнікі КДБ 512 тон бензіну, якія павінны былі «пайсці» ў Латвію. Суд прызнаў здзелку неправамернай, а віноўніка аштрафавалі ажно... на 8 тысяч рублёў. Вы падумайце — тысячы тон! — а я вось машыну сваю заправіць не магу. Гэта, як я сказаў, гульня ў піддаўкі, нікому не патрэбная. Атрымліваецца, што падобная перапампоўка — толькі «правіннасць», за якую нават нельга ў турму пасадзіць. Таму я перад дэпутатамі выступіў з прапановай аб неабходнасці тэрмінова дапоўніць некаторыя артыкулы законаў яшчэ да прыняцця новага Крымінальнага кодэкса. Зараз жа створана сістэма, калі праваахоўныя органы не могуць выкарыстоўваць усе свае магчымасці для навядзення парадку. Неадкладна трэба прыняць закон аб карупцыі, увесці адказнасць за выдачу ліцэнзій і г. д.

За два гады мы ўзбудзілі 159 спраў, 171 чалавек арыштаваны. Тым не менш, я не баюся сказаць: барацьба з карупцыяй праваахоўнымі органамі (Пракуратура, МУС, КДБ) вядзецца не на ўзроўні тых патрабаванняў, якія ставіць нам цяпер жыццё.

— Адзін з «пацярпеўшых» — намеснік старшыні Дзяржнафтапрадукта Васіль Сурмач заявіў у «Знамени юности», што ўладам проста патрэбен быў паказальны працэс перад сесіяй? Ваша думка?

— Мой, падкрэслю, асабісты погляд — меры, прынятыя Саўмінам, недастатковыя. Сёння я прыводзіў прыклад, што па-ранейшаму ўсё вывозіцца. Што ж гэта за захады, калі яны не могуць нічога прадухіліць?

— Колькі следчых ізалятараў КДБ на Беларусі?

— Ізалятараў КДБ на Беларусі столькі, колькі трэба.

— Як намерваецца КДБ змагацца з «агентамі ўплыву»?

— Я гаварыў на сесіі, што пэўныя спецслужбы імкнуцца і ставяць на мэце набыць «агентаў уплыву», і некаторыя нашы людзі трапляюць на гэтую вуду. Я ў дакладзе сказаў, што, калі трэба, назаву некаторых асоб, што займаюцца інфармаваннем замежных дзяржаў, можа нават не ведаючы пра гэта. Магу нават паказаць адпаведныя дакументы. Я сказаў, што Вярхоўны Савет можа стварыць камісію і азнаёміцца з такімі матэрыяламі. Калі я на такое іду — значыць, сапраўды, маю нешта «ў загашніку» на сто працэнтаў і нават больш.

— Вы гаварылі на сесіі аб нездаровым інтарэсе, што праяўляюць да нашай дзяржавы іншыя спецслужбы. Вы мелі на ўвазе нашых традыцыйных праціўнікаў? Або цяпер прыходзіцца абараняцца і ад службаў Балтыі і краін СНД?

— У нас цяпер няма асноўнага праціўніка, няма прыярытэтных накірункаў контрразведкі. Вы ведаеце, што ў мяне складваюцца і будуць складвацца даволі нядрэнныя адносіны з шэрагам спецслужбаў Захаду. А вось са службамі з Усходу адносіны крыху ўскладненыя. Падпісваем пагадненні, а работы няма.

— Згодна з вашым дакладам, у парушэннях і злоўжываннях замешаны многія службовыя асобы. Ці ёсць сярод іх народныя дэпутаты?

— Народны дэпутат — асоба недатыкальная, і я не магу весці работу ў адносінах да яго. Але калі народны дэпутат трапляе ў поле нашага зроку, я дакладваю Прэзідыуму Вярхоўнага Савета, яго Старшыні. Так, траплялі́ся дэпутаты на кантрабандзе, іншым.., але я толькі даю ход справе. На колькі дэпутатаў? Не памятаю, але нямала... Мой даклад перададзены ў Сакратарыят, факты ўсе выкладзены, названы канкрэтныя прозвішчы. Я чалавек законапаслухмяны, пасяджэнне было закрытым, і я не магу сказаць больш. Канешне, я хацеў бы, каб частку майго даклада аб карупцыі надрукавалі.

НА ЗАКАНЧЭННЕ старшыня КДБ да задавальнення ўсіх прысутных абвясціў наступны тыдзень «тыднем адкрытых дзвярэй» у КДБ. І запрасіў усіх журналістаў да сябе ў госці. Канешне, пойдзем, і, канешне, вернемся.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ.**

# З Богам!

Падпісаны Пратакол аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Ватыканам. Па рашэнню кіраўніцтва дзвюх краін гэтую прыемную працэдуру выканалі Яго Высокасць архіепіскап Франчэска Каласуона, папскі нунцый у Маскве, і міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка.

Падпісанню Пратакола папярэднічала трыццаціхвілінная гутарка за зачыненымі дзвярамі паміж архіепіскапам і беларускім міністрам. Аб яе змесце нам, на жаль, нічога не вядома. Толькі пазней Пётр Краўчанка сказаў журналістам, што размова адбылася канкрэтная, дзелавая і дружалюбная.

Усяго некалькі хвілін было адведзена для гутаркі карэспандэнтаў з высокім госцем.

— У знешняй палітыцы Найсвяцейшы Прастол удзяляе Беларусі вялікае месца, — сказаў архіепіскап. — Сведчанне таму — нашы апошнія сустрэчы, якія завяршыліся падпісаннем гэтага Пратакола. Цяпер нашы кантакты замацаваны афіцыяльна.

**— Вядома, што на зямлі Беларусі многія каталіцкія храмы моцна пацярпелі за гады Савецкай улады, а то і проста былі знішчаны. Ці ёсць у Ватыкана якія-небудзь планы наконт аказання дапамогі пры аднаўленні касцёлаў?**

— Маё знаходжанне на беларускай зямлі вельмі кароткае, але ў галоўным каталіцкім саборы Мінска мы бачылі шмат фотаздымкаў паўразбураных касцёлаў. Мы бяром на сябе абавязацельства дапамагчы вашай краіне іх рэстаўрыраваць. Гэта не толькі святыні каталікоў, але і гістарычная каштоўнасць, якая належыць усім.

**— Якія перспектывы аказання гуманітарнай дапамогі Беларусі Найсвяцейшым Прастолам?**

— За апошнія два гады мы распрацавалі праграму інтэнсіўнай дапамогі, асабліва тым людзям, якія жывуць у забруджаных радыяцыяй раёнах. Неўзабаве ў Рыме адбудзецца прадстаўнічая міжнародная канферэнцыя, на якую, дарэчы, запрошаны святар з мінскага касцёла святой Алены і святога Сымона, дзе будуць распрацаваны ўсе неабходныя напрамкі аказання гэтай дапамогі, перш за ўсё ў аздараўленні і вучобе вашых дзяцей за мяжой.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ, Яўген ПЯСЕЦКІ (фота).**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

## «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

На ізраільска-ліванскай граніцы абвастрыліся ваенныя дзеянні. Упершыню на баку праіранскай арганізацыі «Хезбалах» удзельнічалі ў баях ліванскія войскі. Згодна з паведамленнямі, ізраільскія калоны бранятэхнікі рухаюцца ў напрамку ліванскай граніцы.

**Прэм'ер Турцыі заклікаў парламент прадоўжыць надзвычайнае становішча, якое было ўведзена ў 1984 годзе, у дзесяці паўднёва-ўсходніх правінцыях.**

У сваёй прамове перад дзвюма палатамі брытанскага парламента Б. Ельцын папярэдзіў аб небяспецы правага путчу ў Маскве.

**Удзельнікі грамадзянскай вайны ў Босніі дамовіліся аб спыненні агню на ўсёй тэрыторыі рэспублікі.**

## РАДЫЁ «СВАБОДА»

Прэзідэнт Чачні Дудаеў устанавіў крайні тэрмін вываду расійскіх войск з тэрыторый, на якія прэтэндуе Чачэнская рэспубліка. Па мясцовым тэлебачанні Дудаеў заклікаў насельніцтва ўзняцца на барацьбу з захопнікамі, ён таксама аб'явіў мабілізацыю ўзброеных сіл.

**Былы прэзідэнт СССР М. Гарбачоў заявіў, што яму, як ён і разлічваў, за 10 гадоў удалося змяніць курс СССР. Ён абверг сцвярджэнні аб тым, што палітыка перабудовы пачалася без распрацоўкі папярэдняй праграмы. На першым яе этапе, як заявіў Гарбачоў, ён імкнуўся зняць вастрыню сацыяльна-эканамічных праблем. Але ў 1987 годзе партыйна-дзяржаўная наменклатура стала аказваць упартае процідзеянне кардынальным пераменам. Гэтыя рэформы разбуралі сістэму, і сістэма пачала сябе абараняць. Гэта быў канец рэвалюцыі зверху. А Расія, каб пазбавіцца ад цэнтра, ахвяравала Саюзам ССР.**

Праваахоўная арганізацыя «Міжнародная амністыя» заявіла, што Турцыя не выканала сваіх абяцанняў у галіне правоў чалавека. Там працягваюцца, як сцвярджаецца ў дакладзе «Міжнароднай амністыі», палітычныя забойствы і катаванні зняволеных. Паводле даных арганізацыі, за апошнія 12 месяцаў больш за 100 журналістаў, мясцовых палітычных дзеячаў загінулі пры загадкавых акалічнасцях. Большая частка гэтых ахвяр падверглася затрыманню і катаванням паліцыяй.

**Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру Візель заявіў, што канцлер ФРГ Коль часткова нясе адказнасць за рост расізму і антысемітызму ў Германіі. Коль, на думку Візеля, садзейнічаў стварэнню атмасферы, якая дазволіла неанацыстам разгарнуць процідзеянне іншаземцам.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ

**БЕЛАРУСКА-ЛАТВІЙСКАЯ ВЫТВОРЧА-КАМЕРЦЫЙНАЯ ФІРМА «ЛІДЗІЯ»**

працягвае рэалізацыю са складоў г. Ліда
ВІБРАСТАНКОЎ ВС-1 ПА ВЫРАБУ СЦЕНАВЫХ БЛОКАЎ.

Прадукцыйнасць — 1000 блокаў за змену.

КІРАЎНІКІ КАЛГАСАЎ, САЎГАСАЎ, УЛАДАЛЬНІКІ ФЕРМЕРСКІХ ГАСПАДАРАК!
СПЯШАЙЦЕСЯ!
У ГЭТЫМ ГОДЗЕ МОЖНА КУПІЦЬ ЗНАЧНА ТАННЕЙ, ЧЫМ У НАСТУПНЫМ!

**Цана станка: 25 тысяч рублёў — безнаяўны разлік, 23 тысячы рублёў — наяўнымі.**

**ТЭЛ. у г. ЛІДЗЕ: 2-73-21, 2-86-31 (УДЗЕНЬ); 3-44-37 (ВЕЧАРАМ).**

## РЫБАЦКІЯ ЗГАДКІ

### Галоўнае ў вудзе — лёска

да 99%
да 98%
да 85%
да 95%
да 87%
да 87%
да 79%
да 79%
да 79%

Спецыялісты даволі дакладна падлічылі, які працэнт моцы захоўвае лёска ў тых ці іншых вузлах. Выкарыстоўваючы гэтыя звесткі, можна выбраць спосаб завязвання вузлоў. (Мал.)

***

**Вытворцы лёскі з заходніх краін раяць захоўваць яе калі не ў халадзільніку, дык хоць бы ў цёмным халаднаватым месцы.**

***

Тым, хто займаецца лоўляй буйной рыбы, карысна мяняць лёску ад двух да чатырох разоў на сезон, паколькі пры вялікай нагрузцы яна страчвае да 25 працэнтаў моцы.

***

**Нельга карыстацца «карабінчыкамі», якія зроблены з дроту менш тонкага, чым лёска.**

***

40—50 метраў спінінгавай лёскі распускаюць на ўсю даўжыню па зямлі і, ідучы ад катушкі да свабоднага канца, праціраюць жылку кавалачкам ваты, намочаным у бензіне. Робяць гэта два-тры разы запар. Такая «хімчыстка» ліквідуе матавы налёт, які пагаршае слізганне ў прапускных кольцах і зніжае дальнасць закіду.



***

**Вопытныя спінінгісты раяць перад кожнай рыбалкай абразаць 1,5 метра на канцы лёскі. Гэтыя метры бываюць самыя зношаныя і старыя.**

***

Афарбоўку лёсцы прыдаюць не толькі для маскіроўкі. Фарбавальнікі павышаюць яе даўгавечнасць, засцерагаюць ад уздзеяння сонечнага святла, якое разбурае лёску.

## ХАТНІЯ НАРЫХТОЎКІ

### Старая страва — на новы лад

Вазьміце адзін—два вялікія качаны (3—4 кг). «Распраніце» іх — здыміце лісце. Вострым нажом зрэжце пражылкі. Раскладзіце гатовае лісце на стале на паўдня падвяліцца.



Потым згортвайце па 1—2 лісты ў рулончык і тонкім вострым нажом наразайце ўпоперак як мага танчэй (не больш за 4 мм). Не бойцеся, гэта не зойме шмат часу.

Натрыце на буйной тарцы 300—400 г морквы, складзіце ў тазік, перамяшайце з капустай. Шчыльна запоўніце масай 4—5 літровую каструлю, але не да краёў. Прыгатуйце расол: 2 сталовыя лыжкі буйной солі растварыце ў літры цёплай вады. Заліце капусту даверху, пастаўце ў цяпло. Груз не патрэбен.

На другі ці трэці дзень праткніце яе ў некалькіх месцах палачкай. На трэці дзень зліце расол і растварыце ў ім 1,5 сталовай лыжкі цукровага пяску (на літр расолу). Калі хочаце, дадайце 3—5 кропель кропнага і 2—3 кроплі лаўровага масла. Ніжнія слаі капусты перамясціце наверх, верхнія — уніз, заліце новым расолам.

Няхай пастаіць яшчэ суткі ў цяпле, а потым стаўце яе на холад: на балкон, у халадзільнік.

## Парады на ўсякі выпадак

Абламаны ў цяжкадасягальным месцы алюмініевы провад можна падоўжыць. На кавалак дроту некалькі меншага дыяметра, чым абламаны провад, шчыльна намотваюць віткамі падаўжальнік — таксама з алюмінію. Потым атрыманую спіраль, як гайку, накручваюць на канец абарванага проваду. Месца спалучэння ізалююць.

***

**Нажывіць і закруціць пад вуглом шрубу ў дрэва і асабліва ў гуму не так проста. Замацуйце спачатку шрубу ў патрэбным становішчы пластылінам і ўжо пасля гэтага нажывіце лёгкім ударам малатка.**

***

Калі рэжаце гуму, змазвайце лязо нажа мылам: і рэзаць будзе лягчэй, і краі атрымаюцца роўныя.

***

**Зацiскное колца для поліэтыленавага мяшочка можна зрабіць з пластмасавага корка, выразаўшы ў яго донцы невялікую дзірку.**

***

**Адбітую эмаль ванны можна аднавіць. Пашкоджаную паверхню ачышчаюць наждачнай паперай і бензінам, прасушваюць. Цяпер накладваюць тонкі слой клею БФ-2, дадаюць сухія бялілы. Гэту сумесь наносяць пэндзлем на пашкоджаную паверхню некалькі разоў (праз гадзіну) да той пары, пакуль таўшчыня слоя не зраўнуецца з таўшчынёй непашкоджанай эмалі.**



## ХАТНЯЯ МАЙСТЭРНЯ

### Як саткаць малюнак

**Асабліва цікавая гэта праца для дзяцей. Яны могуць саткаць малюнак па ўласным эскізе.**

Эскіз (ён павінен быць простым) выконваецца на паперы ў клетку, кладзецца на фанеру. Па верхняй і ніжняй межах контуру ўбіваюцца цвікі. Колькасць цвікоў зверху і знізу павінна быць аднолькавай. Паміж цвікамі нацягваецца нясучая нітка: спачатку яна мацуецца за першы цвік у верхнім радзе, потым чапляецца за суадносны цвік у ніжнім радзе, потым — зноў за верхні і г. д. Пасля гэтага на аснове з рознакаляровых рэшткаў пражы робіцца малюнак. Выкарыстоўваецца цыравальная іголка і тая ж тэхніка, што і пры цыраванні панчох: іголка з ніткай прасоўваецца пад першы рад нясучай ніткі, перакідваецца праз другі, зноў прасоўваецца пад наступны і г. д. Новы рад — наадварот. Калі малюнак гатовы, ён здымаецца з асновы, яго можна ўставіць у рамку ці выкарыстаць як аплікацыю.

